*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 29 (241) | 19 ліпеня 1995 г. | Кошт — 500 рублёў

«НІЯКІЯ РЭФЕРЭНДУМЫ НЕ Ў СТАНЕ СКАСАВАЦЬ СТАТУСЫ БЕЛАРУСКІХ ШКОЛ» Стар. 3.

«ЖЫВАЯ МОВА ЗБОРНІКА XV СТ.» Стар. 6.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПРАЙШОЎ ГОД, ЯК БЫЎ ВЫБРАНЫ ПЕРШЫ ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ.** Што ім зроблена за гэты час на карысць адраджэння беларушчыны? На змену старадаўняй нацыянальнай сімволікі былі вернуты камуністычныя атрыбуты, пастаўлена пад пытанне існаванне беларускай мовы, зняты з пасад некаторыя дэмакратычныя рэдактары рэспубліканскіх газет... Пералік можна было б доўжыць. Праўда, кажуць, што рыхтуецца для падпісання Прэзідэнтам указ аб абароне беларускай мовы і культуры. Дай то Бог!

○ ***УМЕНСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ ЛІНГВІСТЫЧНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ АДБЫЛІСЯ ЗМЕНЫ.*** *Пасаду рэктара заняла Наталля Баранава, якая раней была прарэктарам.*

○ **У МАГІЛЁВЕ ПЕРАСТАЛА ВЫХОДЗІЦЬ «РАТУША».** Прычына закрыцця газеты — адсутнасць фінансавання з боку заснавальнікаў — мясцовых арганізацый БСДГ і БНФ.

○ ***НА ПАСЯДЖЭННІ ЦЭНТРАЛЬНАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ ПРЫНЯТА РАШЭННЕ,*** *што паўторныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання адбудуцца 29 лістапада.*

○ **АДБЫЛАСЯ РАБОЧАЯ НАРАДА ГРАМАДСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ДЗЕЯЧАЎ.** Абмяркоўваліся пытанні ўмацавання дзяржаўнасці Беларусі як гаранты народнага дабрабыту і гістарычнага існавання нацыі. Прысутнічалі: Н.Гілевіч, В.Быкаў, С.Асталчык, Д.Булахаў, У.Карагін, Г.Карпенка, І.Нікітчанка, З.Пазьняк, А.Станкевіч, В.Шаранговіч, С.Шушкевіч.

○ ***ПРАЙШЛА ТРЭЦЯЯ СЕСІЯ З'ЕЗДА ГРАМАДЫ,*** *на якой абраны новы старшыня. Ім стаў Мікалай Статкевіч, які дагэтуль узначальваў таксама Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Алег Трусаў, які быў старшынёй БСДГ да абрання на гэтую пасаду М.Статкевіча, лічыць, што пры новым кіраўніцтве партыя можа ўзяць больш левую арыентацыю, і прадказвае таксама пахаладанне ў яе адносінах з БНФ. Адным з намеснікаў старшыні БСДГ абраны Пётр Краўчанка, былы міністр замежных спраў Беларусі.*

○ **ПА РАШЭННІ ПРЭЗІДЫУМА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯЎ З ЗАМЕЖНЫМІ КРАІНАМІ** ў верасні плануецца правесці Дні Германіі ў Рэспубліцы Беларусь, а ў канцы 1995 года — Дні Рэспублікі Беларусь у Іспаніі.

○ ***У КІЁСКАХ НАШАЙ КРАІНЫ З'ЯВІЛАСЯ НОВАЯ ГАЗЕТА — «Народная воля»,*** *заснавальнікам якой стаў былы галоўны рэдактар «Народнай газеты» Іосіф Сярэдзіч. Газета выдаецца на беларускай і расійскай мовах.*




# «Жальбіны-95»

Не шукайце іх сярод памерлых, не гукайце сярод жывых. Не праб'ецца іх голас праз тоўшчу гадоў, не адмечаны на прапітанай крывёю зямлі іх магілы. Толькі маўклівы лес ведае, на якім месцы ўпаў кожны з іх, толькі дрэвы чулі іх апошнія словы.

Не, не толькі дрэвы. Чулі яшчэ ахоўнікі, якія бязлітасна палівалі з аўтаматаў калону вязняў. Тады ў чэрвеньскую ноч 1941 года на ўскраіне Чэрвеня былі забіты зняволеныя з розных турмаў, якіх ахоўнікі, спазняючыся, гналі на ўсход ад наступаючых немцаў.

Пяцьдзесят гадоў толькі гэтыя сосны маглі, не баючыся, шаптацца пра падзеі той крывавай ночы.

Вось ужо некалькі гадоў, як людзі з Беларусі, Летувы, Польшчы прыязджаюць на гэтае жалобнае месца, каб аддаць даніну памяці ахвярам бальшавіцкага тэрору. Адбылася такая жалобная сустрэча і сёлета. Прыехалі ў Чэрвень людзі з Менска, Летувы, прыйшлі і мясцовыя жыхары. Як і ўсе ранейшыя гады, жальбіны наладзілі БНФ «Адраджэньне» і «Мартыралог Беларусі».

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**Фота аўтара.**



## IV з'езд БНФ

8 ліпеня ў менскім Доме літаратара прайшоў IV з'езд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Запрошаныя на з'езд дэлегаты стоячы спявалі гімн М.Равенскага і Н.Арсенневай «Магутны Божа», які аднячасна гучаў у запісу ў выкананні Даньчыка. З дакладам выступіў старшыня сойму Зянон Пазьняк. Прамоўцы гаварылі пра сітуацыю, што склалася ў апошнія часы вакол беларускага адраджэння, пра рэферэндум, праведзены 14 траўня. Спаміж усяго было адзначана, што на рэферэндуме прагаласавалі не супраць беларускай мовы, а за яе роўны статус з расійскай.

На з'ездзе былі прынятыя ўхвалы. Падрабязнасці — неўзабаве.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

## *З нараджэннем, «Народная воля»!*

Выйшаў першы нумар новай незалежнай газеты «Народная воля», заснавальнікам і галоўным рэдактарам якой стаў вядомы журналіст Іосіф Сярэдзіч, былы кіраўнік і стваральнік «Народнай газеты». У калонцы галоўнага рэдактара Іосіф Сярэдзіч запэўніў чытачоў, што нованароджанае перыядычнае выданне будзе цвёрда стаяць на пазіцыях праўдзівасці, усімі сіламі спрыяць развіццю краіны па шляху дэмакратыі, рэфармаванню эканомікі, нацыянальнаму адраджэнню Беларусі. Нашаслоўцы шчыра вітаюць калектыў «Народнай волі» і жадаюць новаму выданню многа чытачоў і доўгага жыцця.

**Рэдакцыя.**

*З рэдакцыйнай пошты*

# Вынікі рэферэндуму даюць права

Рэферэндум, які адбыўся 14 траўня г.г., як землятрус, скалануў усю Беларусь. Мы, свядомыя беларусы, успрынялі яго як злачынства XX стагоддзя супраць нашай Айчыны.

Але ж шмат хто з-за гэтай узрушанасці не звярнуў увагу на новыя акалічнасці, якія створаны дзякуючы станоўчаму адказу на першае пытанне рэферэндуму. Прагаласавалі за роўнасць расійскай і беларускай моў? Дык чаму тады чыноўнікамі перавага аддаецца адной расійскай? Дзе ў пытанні рэферэндуму сказана, што даецца права разбураць беларускія культурныя асяродкі?

Напрыклад, мая ўнучка вучыцца ў 74-й менскай школе, мы аддалі яе туды, бо гэта поўнасцю беларускі асяродак. Але ж унучка паведаміла, што ў іх школе цяпер набіраюць і расійскамоўныя класы! Адпаведна, бачыце, заяваў нейкіх бацькоў. Я чуў, гэтае распараджэнне ці загад зрабіў міністр адукацыі сп.Стражаў. Калі гэта так, то загад пярэчыць вынікам і сутнасці пытання рэферэндуму.

Адпаведна рэферэндуму, калі мовы роўныя, дык значыць і павінна быць роўная колькасць расійскіх і беларускіх школ. Скажам, у Менску практычна зараз так яно і ёсць. Дык навошта ж трэба ўсё зноў куламесіць, ствараючы расійскія класы і наадварот? Выбірай мову навучання і вядзі сваіх дзяцей у адпаведную школу. А так адбываецца спроба прыхавана разбурыць беларускія школы. Нічога сабе дэмакратыя! Да таго ж, спадар міністр павінен разумець, што ён закладвае такім чынам міны варажнечы паміж расійска- і беларускамоўнымі вучнямі ў адной школе. Грамадства раскалолі, цяпер трэба і вучняў нацкаваць аднаго на другога. Вось гэта яднанне нацыі робяць нашы ўлады, вось дык будуюць суверэнную дзяржаву!

Беларусы павінны выкарыстаць вынікі рэферэндуму, якія даюць роўныя магчымасці беларускай і расійскай мовам, дзеля свайго нацыянальнага адраджэння, дзеля адраджэння нацыянальнай мовы і не дапусціць разбурэння беларускамоўных культурна-асветніцкіх асяродкаў.

**І.АНТАНЮК, пенсіянер.**
г.Менск.

# Народ трэба абуджаць

Колькі ні думаю пра вынікі прэзідэнцкага рэферэндуму, а ў галаве не ўкладваецца, каб большасць беларусаў прагаласавала за ўласнае самагубства. Нешта тут не тое. Але ў любым выпадку выразна заўважаецца, як пэўныя сілы стараюцца беларусаў ачмурыць, увагнаць у летаргічны нездаровы сон. Бо інакш цяжка зразумець, чаму, напрыклад, лепшыя літаратурныя творы на беларускай мове выдаюць мізэрнымі тыражамі, без усялякай папярэдняй рэкламы, як гэта здарылася з кнігай пакутніка ГУЛАГа Алеся Звонака. А Сяргея Грахоўскага? Ды такіх шэраг!

А чаму так мала выдаецца літаратуры па гісторыі нашай радзімы? Гэта ў той час, калі ў народзе доўга вытраўлялі гістарычную памяць. Рэдка пачуеш перадачы на тэмы гістарычнай спадчыны па радыё, тэлебачанні. Чаму, напрыклад, было так мала сказана і паказана пра 500-годдзе Мірскага замка? А дзе тэлеэкскурсіі па гістарычных мясцінах Беларусі (і не толькі па партызанскіх лагерах).

А чаму гэта газету для сялянства Беларусі выдаюць на расійскай мове? Ды яшчэ з казны на такую разбураную для народнай свядомасці справу выдаткуюць многія мільёны грошай! Ці не гэта не здзек з селяніна, навязваць яму такое выданне? Гэта не сапраўдны генацыд для ягонай беларускай душы! На маю думку, тут павінны ўсе творчыя саюзы Беларусі — пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў — дружна выступіць у абарону селяніна-беларуса. Можа, калі гэта ўсё аформіць у выглядзе «нижайшего прощения» на «высочайшее имя» нашага «бацькі», нічога добрага не атрымаецца, але ж і маўчаць нельга! Трэба перамагчы ў сабе гэтую самагубную беларускую млявасць і залішнюю памяркоўнасць ды талерантнасць. Народ трэба абуджаць ад летаргічнага сну.

**І.АСМАЛОЎСКІ.**
м.Узда.

*Рэха*

# Юры Шаўчук: спявайце на роднай мове...

**У газеце «Свободные новости плюс» змешчана гутарка з расійскай рок-зоркай Юрыем Шаўчуком. Карэспандэнт папытаўся ў спадара Шаўчука, як ён ставіцца да беларускіх рок-гуртоў, што спяваюць не на роднай мове, а па-англійску. Вось што адказаў лідэр расійскага рока:**

*«Я не хачу навязваць сваё меркаванне, але, напэўна, хлопцы не разумеюць, наколькі другасна тое, што робіш на чужой мове! Гэтыя хлопчыкі, якія спяваюць на англійскай, наколькі я ведаю гэтую мову, проста асуджаюць сябе на другаснасць...*

*...Расійскі рок-н-рол зрабіўся расійскім рок-н-ролам толькі пасля таго, як мы перасталі спяваць на англійскай. Пасля гэтага яго ж і пачалі забараняць!*

*...Зараз рок-н-рол перажывае не лепшыя часы. Але я б вельмі хацеў пачуць групы, якія спяваюць* ***на беларускай мове****, таму што мова — гэта такая рэч, якая выцягвае любую музыку! У самой мове ўжо першапачаткова ёсць мелодыка. І я трохі вінавачу тых хлапцоў, што спяваюць на англійскай, у камерцыялізацыі музыкі: яны, напэўна, хочуць калі-небудзь выехаць за мяжу выступаць па клубах. Але праз гэта прайшлі ўжо многія. Гэта вельмі блага і нудна».*

**Прачытала Л.Ш.**

*У газетах*

## Фронт будзе рэфармавацца

«Нам трэба сёння падумаць над тым, як весці прапаганду сваіх поглядаў не толькі сярод беларусаў, але і сярод рускіх, прадстаўнікоў іншых нацый, што насяляюць Беларусь. Патрэбна не толькі беларускамоўная, але і рускамоўная газета Народнага Фронту. І наогул, калі мы думаем аб адраджэнні Бацькаўшчыны, то павінны мець на ўвазе, што супольнасць пад назвай «беларускі народ» — гэта і беларусы, і расійцы, і ўкраінцы, і палякі, і літоўцы, і яўрэі, і татары, і другія нацыянальнасці са сваімі традыцыямі, культурай, гісторыяй, рэлігійнымі асаблівасцямі. Усе яны павінны зразумець, што ім, іхнім дзецям і ўнукам жыць на гэтай зямлі разам, ды не проста ў міры, а ў братэрстве, дзе кожны брат роўны другому брату, што нам усім разам трэба ствараць Беларускі Дом, родны для ўсіх, але свой, суверэнны, незалежны. І само сабой — багаты. Таму Беларускі Народны Фронт не павінен пераўтварацца ў Беларускі нацыянальны фронт. БНФ шырока адчыняе дзверы для людзей усіх нацыянальнасцяў, калі яны хочуць стварыць менавіта такі Дом.

...Усім нам неабходна адраджэнне пасля сталінска-суслаўскіх эксперыментаў па «зліванні» народаў і нацый. У тым ліку, зразумела, і беларусам. Мяркую, тут нам трэба не канфліктаваць між сабой, а дапамагаць адзін аднаму і ў набыцці ўласных этнічных адметнасцяў, і ў выхаванні беларускага дзяржаўнага патрыятызму. Так што ўзнімацца з каленяў будзьма разам».

**З інтэрв'ю Валянціна Голубева, намесніка старшыні Сойма БНФ, сакратара Пастаяннай Камісіі ВС па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях газеце «Реклама плюс» (№ 22, 1995 г.)**

## «Акцёр раптам застаўся без тэатра»

«...Вы заўважылі, як крута ў апошні час прэзідэнт памяняў адносіны да парламентарызму? З чаго б гэта ён, у чыіх аўтарытарных памкненнях даўно ўжо ніхто не сумняваецца, раптам пачаў казаць пра народаўладдзе? А проста здарылася так, што акцёр раптам застаўся без тэатра. Што там усе гэтыя вертыкальшчыкі, якія дрыжаць перад табой, як асінавая лістота пад час буры, няма з імі ніякага задавальнення ў баі. А тут, нібыта, незалежныя. Пакуль не папросяць пасаду. Ну з гэтым можна і пачакаць. Затое будзе сцэна з трансляцыяй на ўсю краіну, дзе можна ўвайсці ў вобраз венецыянскага маўра ці прынца Дацкага, пасвавоiць у духу Хлестакова, пусціць слязіну, як гераіня мексіканскага серыяла, і наогул, крыху пахарахорыцца. Не, парламент, калі ён і не патрэбны народу, якога не ўдалося шчыльнымі шэрагамі прапусціць праз выбарчыя ўчасткі, то прэзідэнту неабходны як паветра або, лепш сказаць, громаадвод...»

**(«Фемида», № 25, 1995 г.)**

## Нацыянал-бальшавік Эдуард Лімонаў супраць аб'яднання Расіі з Беларуссю?

«...Калі пры ўладзе ў Расіі старая наменклатура, — Ельцын ды іншыя, — то нікому ніякай карысці саюз з Расіяй не прынясе. Трэба будзе з Расіяй аб'ядноўвацца, калі пачнецца рэвалюцыя, у працэсе рэвалюцыі трэба будзе абавязкова ствараць гармідар. А зараз размова ідзе пра такое штучнае аб'яднанне. Напрошваецца пытанне: каго з кім? Махляроў рускіх з беларускімі махлярамі? Такое аб'яднанне нікому не прынясе карысці... У сённяшнім аб'яднанні я нічога пазітыўнага не бачу».

**З інтэрв'ю вядомага палітыка і пісьменніка, кіраўніка Нацыянал-бальшавіцкай партыі Расіі і галоўнага рэдактара газеты «Лимонка» Эдуарда Лімонава газеце «Свободные новости плюс» (№ 25, 1995 г.)**

## Прэзідэнт Беларусі і кітайская ідэалогія

«У заяве для прэсы з нагоды візіту ў Рэспубліку Беларусь Прэм'ера Дзяржсавета КНР Лі Пэна А.Лукашэнка падкрэсліў, што «ў нас падобная ідэалогія, так што нам проста весці перамовы з кітайскім бокам».

Гэта меркаванне, магчыма, і не выклікала пярэчанняў у пішучай брацыі, але, несумненна, паставіла ў тупік не аднаго свядомага кітаязнаўца. Якога ідэолага ўважаў пан Прэзідэнт? Гэта мог быць і Канфуцый, які жыў за пяцьсот гадоў да Нараджэння Хрыста. Канфуцый вучыў, што ўсё матэрыяльнае прадвызначана «небам», штучным зменам не падпарадкавана, і таму малодшыя павінны, безумоўна, аддаваць даніну пашаны старэйшым, а падначаленыя строга выконваць волю і ўказанні начальства. Дарэчы, на гэтых прынцыпах збудаваная традыцыйная кітайская сістэма выхавання.

Ва ўмовах ідэйнага вакууму, што ўтварыўся вакол новай беларускай улады, канфуцыянства паспяхова здолела б паслужыць умацаванню аўтарытэтаў дзяржаўных саноўнікаў. Але, з другога боку, унутраная інерцыйнасць канфуцыянства стала за прычыну таго, што ў перыяд «культурнай рэвалюцыі» аўтар дактрыны быў аб'яўлены рэвізіяністам і дысідэнтам, а яго ідэйныя прыхільнікі былі жорстка ці не да фізічнага знішчэння «раскрытыкаваныя».

Рэвалюцыянеру Мао «созерцатель» Канфуцый прыйшоўся не да месца. Уласна, гэта нармальная форма адносін да культуры ўсіх рэвалюцыянераў: спачатку ім хочацца ўсё зламаць, а затым закансерваваць уласную мудрасць для вечнага і невычэрпнага карыстання. Але і гэтая норма таксама — пачынаецца новая рэвалюцыя, і былы «кормчий» пераўтвараецца ў «злобного пса». У гэтым выражаецца і агульнасць і падабенства ўсіх ідэалогій».

**(«Белорусский рынок», № 24, 1995).**

*Але!*

# Быццам і кніжкі ёсць, але ёсць і кніжны голад

Да нядаўняга часу ў нашым раёне гандлявалі тры кніжныя крамы. І кніг там было шмат. Праўда, значная плошча паліцаў была напакавана творамі «верных» марксістаў-ленінцаў, у тым ліку генеральных і іншых сакратароў. Але ж і добрай літаратуры было багата, і кнігі куплялі.

А сёння на ўвесь раён застаўся адзін кніжны аддзел у раённым універмагу. Ды і там выбар небагаты, у асноўным — сексуальна-пачварная макулатура ў стракатых вокладках. А з сапраўды мастацкай літаратуры і выбіраць няма чаго.

Не лепшая сітуацыя і ў іншых сельскіх раёнах. Кіраўніцтва гандлю тлумачыць такі «феномен» зніжэннем попыту на мастацкую літаратуру, у тым ліку на расійскую. Бяруць толькі, маўляў, гэтую сексуальна-пачварную. Хоць і дарагая, але захапляльная: «праглынуў», плюнуў і забыў, думаць няма над чым.

Аднак у той жа час пагаворыш з людзьмі — многія адчуваюць голад на добрую мастацкую літаратуру, у тым ліку беларускую. Ахвотна раскупляюцца творы В.Быкава, Я.Брыля, М.Танка, Л.Геніюш. Хутка зніклі кнігі паэзіі Р.Тармолы, В.Супруна. Заўсёды добра ідзе гістарычная літаратура, мастацтвазнаўчая. А завозяць яе мала. Падпісныя выданні прыпыненыя ці зусім не паступаюць. Я, напрыклад, некаторыя тамы быў, урэшце, вымушаны шукаць у Менску. А няўжо б у нас не знайшлося падпісчыкаў на новую «Энцыклапедыю Беларусі»!

Абыякавасці ў нашых гандляроў кнігай многа. Вось адна з галоўных прычын цяперашняга стану. А некаторыя, магчыма, і зацікаўленыя, каб беларуская літаратура не даходзіла да народа. А яе трэба рэкламаваць, знаёміць грамадства з тым, якія беларускія кніжкі на падыходзе. Тут трэба, каб аддзелы культуры і аддзелы народнай адукацыі разам з бібліятэкамі, і, нарэшце, сябры ТБМ збіралі заказы на новыя кнігі. Можа, нават трэба стварыць пры бібліятэках, школах, клубах суполкі ці гурткі аматараў беларускай літаратуры, дзе абмяркоўваць і тэматычныя планы выдавецтваў, і ўвогуле новыя кнігі, каб расказваць пра іх людзям. Толькі так можна адраджаць і падтрымліваць нацыянальную свядомасць у народзе. Інакш кнігагандаль і надалей будзе пастаўляць больш выгадную сексуальна-пачварную макулатуру, спрыяючы разбэшчванню ды дэградацыі насельніцтва.

**І.ФУРСЕВІЧ.**
г.Докшыцы.

# Навагрудак склікае



**Навагрудак XVI стагоддзя.** Рэканструкцыя. Малюнак **Віктара СТАШЧАНЮКА.**

**Актуальна!**

# Знішчаць беларускасць — зноў руйнаваць і рэзаць па жывому

**Статыстыка сведчыць: за апошнія пяць гадоў роднае слова паспяхова ўкаранялася ў школах сталіцы. Чаму трэба цяпер здаваць пазіцыі?**

***Пра гэта гутарка са старшынёй Камісіі па выхаванні і адукацыі Менскага гарсавета, заслужанай настаўніцай Беларусі Вольгай Кузьміч.***

**— Пасля сумна вядомага рэферэндуму, дзе адным з пытанняў разглядалася наданне расійскай мове статуса, роўнага з беларускай, пачаўся наступ на роднае слова ў менскіх школах. Арганізоўваюцца расійскамоўныя класы ў беларускіх школах, касуецца нацыянальны статус апошніх. Скажыце, Вольга Аляксандраўна, прыхільнікам беларушчыны тут ёсць што губляць?**

— Зразумела, ёсць. За мінулыя пяць гадоў наша камісія, гарадское ўпраўленне адукацыі пры падтрымцы кіраўніцтва галіновага міністэрства і гарвыканкама надалі статус беларускіх 136 школам, расійскіх — 95-ці. Яшчэ раз нагадаю вашым чытачам, сёння на беларускай мове ў горадзе навучаецца 60,9 працэнта першакласнікаў, 61,9 — другакласнікаў, 49,5 — вучняў трэціх класаў, 20 — чацвёртых. Але, самі разумееце, акрамя Беларускага гуманітарнага ліцэя, у Менску няма ніводнай навучальнай установы, якая была б цалкам пераведзена на выкладанне прадметаў па-беларуску. Я пра гэта паведамляла ўжо чытачам «Нашага слова»...

**— Калі ласка, больш падрабязна пра тое, якіх поспехаў за мінулую пяцігодку дасягнуў працэс беларусізацыі ў сталіцы. Якія тут назіраюцца тэндэнцыі, нюансы?..**

— Тады я «прайдуся» і па іншых, так бы мовіць, суб'ектах сістэмы адукацыі горада. Дык вось, на беларускай мове ажыццяўляецца вучэбна-выхаваўчы працэс у Менскім педагагічным каледжы, у Менскім педагагічным вучылішчы № 1. Асаблівая ўвага надавалася пераводу на карыстанне родным словам у выкладанні прадметаў у навучальных установах новага тыпу: з 11 гімназій, адкрытых у горадзе, 7 — з беларускай мовай навучання, у дзвюх дзейнічаюць беларускія і расійскамоўныя класы, усе 5 школ-ліцэяў — беларускія. Пераведзена выкладанне па-беларуску значнай колькасці агульнаадукацыйных і спецыяльных прадметаў у ПТВ № 11, 12, 38, 43, 52, 55, 63, 71, 117, 133, у вышэйшых вучылішчах будаўнікоў, электронікі, гандлю, вышэйшым паліграфічным вучылішчы, у цэнтрах прафесійнай адукацыі Першамайскага і Партызанскага раёнаў. Па стану на пачатак сёлетняга года былі беларускімі 115 дзіцячых садкоў. У 335 дашкольных установах адкрыты 1300 беларускіх груп. Такім чынам, дзеці паступалі ў школы, дзе вучэбна-выхаваўчы працэс вёўся па-беларуску, добра падрыхтаванымі.

**— Некаторыя скептыкі з ліку заўзятых прыхільнікаў расійскамоўнасці сцвярджаюць, што выкладанне прадметаў на беларускай мове не дае вучням і студэнтам неабходнай якасці ведаў.**

— Я раіла б скептыкам крыху супакоіцца. Нясуць шавіністычна настроеныя паслядоўнікі панславізму лухту. І гэта я зараз дакажу з лічбамі. Яшчэ, напрыклад, у красавіку мінулага года кантрольныя работы па беларускай мове і матэматыцы, праведзеныя ў чатырох расійскамоўных і беларускіх класах Менска па тэкстах гарадской інспекцыі адукацыі, паказалі, што вучні беларускіх, як і расійскамоўных, класаў добра засвоілі праграмны матэрыял, — аваладалі прадугледжанымі ўменнямі і навыкамі. Па некаторых паказчыках вучні класаў з беларускай мовай навучання нават апярэдзілі вучняў расійскамоўных класаў. Так, з дыктоўкай па беларускай мове паспяхова справіліся 97,2 працэнта вучняў беларускіх і 96,9 — вучняў расійскамоўных чацвёртых класаў, што, я лічу, натуральна. А вось кантрольная работа па матэматыцы ў гэтым сэнсе, згадзіцеся, больш прынцыповая. Тым не менш, яе з поспехам асілілі 94,4 працэнта вучняў беларускіх класаў і 92,7 працэнта — расійскамоўных. Якасны паказчык тут адпаведна 75 і 73 працэнты.

**— Скажыце, Вольга Аляксандраўна, за кошт чаго дасягаецца высокі ўзровень выкладання прадметаў у навучальных установах з беларускай мовай навучання?**

— У асноўным — за кошт падбору і падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў — настаўнікаў ды выкладчыкаў. За мінулыя гады была разгорнутая інтэнсіўная падрыхтоўка настаўнікаў школ горада, выхавальнікаў дзіцячых дашкольных устаноў, выкладчыкаў ПТВ на мэтавых курсах у гарадскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Для тых, хто аваладвае мовай самастойна, прадугледжаны экстэрнат. Кожны, хто паспяхова здае экзамен на роднай мове, атрымлівае спецыяльнае пасведчанне на права выкладання прадметаў па-беларуску. Ужо некалькі тысяч педагогаў падрыхтаваныя гэткім чынам. Толькі за мінулы год названае права атрымалі 316 выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання ПТВ.

**— А як справы з наяўнасцю беларускамоўных падручнікаў?**

— Беларускія школы поўнасцю забяспечаны неабходнымі падручнікамі, своечасова атрымліваюць вучэбна-метадычныя дапаможнікі і дыдактычныя матэрыялы, што выходзяць з друку. Гэтага нельга сказаць пра забеспячэнне прафтэхвучылішчаў падручнікамі ды галіновымі слоўнікамі з карыстаннем роднага слова. Але ў шэрагу ПТВ выкладчыкі і майстры рабілі саматужны пераклад асобных тэхпрадметаў, а таксама рыхтавалі прафесійныя слоўнікі. Такія слоўнікі падрыхтаваныя, напрыклад, у ПТВ № 11 для прафесіі ткацкай вытворчасці, у ПТВ № 3 па прафесіі «наборшчык», у ПТВ № 24 для выкладання прадметаў, звязаных з аддзелачнымі работамі, у ПТВ № 114 для электрагазазваршчыкаў, маляроў-тынкоўшчыкаў, азеляняльнікаў, у ПТВ № 43 для абутнікаў. У гэтым плане пастараўся і наш гарадскі інстытут удасканалення настаўнікаў. Тут сумесна са слухачамі былі апаратыўна распрацаваныя кароткія прафесійныя слоўнікі для ПТВ швейнікаў, гандлю, машынабудавання. Толькі можна здзіўляцца энтузіязму педагогаў і чыноўнікаў з гарадской і раённых сістэмаў адукацыі, пераважная большасць якіх успрыняла задачы беларусізацыі, як сваю кроўную справу...

**— Але ж, Вольга Аляксандраўна, Вы ведаеце: поспех у гэтай справе спрыяе там, дзе ствараецца шырокае беларускамоўнае асяроддзе, там, дзе ў навучэнцаў абуджаецца цікавасць да беларушчыны не толькі на ўроках...**

— Разумею пытанне. Вашым чытачам хачу паведаміць, што за апошнія гады ў школах і ПТВ пашырылася сетка факультатываў па гісторыі ды нацыянальнай культуры Беларусі. Больш актыўны ўдзел вучні бяруць у школьных, раённых і гарадскіх алімпіядах па роднай мове. Так у лістападзе 1994 года толькі ў школьных і раённых алімпіядах па беларускай мове ўдзельнічалі 5380 вучняў 9—11 класаў. Традыцыйнымі ў Менску сталі навукова-практычныя вучнёўскія канферэнцыі. Яны спрыяюць выхаванню цікавасці дзяцей да роднай мовы, гісторыі і традыцый краіны, нацыянальнай культуры. На мой погляд, адна з найбольш папулярных — пастаянна дзеючая канферэнцыя «Мова. Гісторыя. Незалежнасць».

**— Уласна, выхаванне дзяцей у гэтым накірунку пачынаецца ўжо ў дашкольных установах. Я неяк завітаў у адзін садок і напаткаў там і кросны, і вырабы з саломкі, і вышыванкі — ну, проста цэлы міні-музей беларушчыны!..**

— Так, амаль у кожным садочку ці яслях горада ёсць з густам абсталяваныя «беларускія хаткі» — своеасаблівыя куточкі старадаўняга нацыянальнага побыту. У Менску ў школах і ПТВ працуе больш трыццаці музеяў краязнаўства. Актыўна прапагандуюць беларускую культуру, традыцыі, фальклор Цэнтры беларускай нацыянальнай культуры, якія адкрыты на базе пазашкольных выхаваўчых устаноў, школ і прафтэхвучылішчаў. Адзін з буйнейшых — працуе ў гарадскім Палацы дзяцей і моладзі... Паўсюдна развіваюцца гурткі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тут дзеці вучацца майстраваць нешта з саломкі, спрабуюць ткаць габелены, вырабляць кераміку, плятуць паясы, распісваюць і робяць разьбу па дрэву. Ці не ў кожнай школе, ПТВ і садку сталі традыцыйнымі каляндарна-абрадавыя святы...

**— Я заўважыў, што ў нас багата юных спевакоў, танцораў, чытальнікаў і іншых самадзейных беларускамоўных артыстаў школьнага ўзросту.**

— Усё правільна. У горадзе праводзіцца вялікая колькасць гарадскіх і раённых конкурсаў мастацкай самадзейнасці, на якіх акцэнт робіцца на прапаганду лепшых узораў нацыянальнай культуры. У школах і ПТВ часта афармляюцца выставы дэкаратыўна-прыкладной і мастацкай творчасці, адбываюцца кірмашы, народныя гульні, фестывалі вакальнай і харавой музыкі на фальклорнай аснове...

**— Прабачце, але, паслухаўшы Вас, шаноўная Вольга Аляксандраўна, міжволі прыходзіш да высновы, што ў нас горад проста насычаны дзіцячымі ды юнацкімі асяродкамі беларушчыны...**

— Што ж, давайце звернемся, як кажуць у падобных выпадках, зноў жа да лічбаў і фактаў. Я, напрыклад, дакладна ведаю, што толькі ў Маскоўскім раёне ў кожнай другой школе ёсць фальклорныя калектывы, а найбольш вядомыя ў Менску і на Беларусі — ансамблі СШ № 12, 155, 11, 110 і 168. У школах ідзе мэтанакіраванае адраджэнне нацыянальнага тэатра. Лепшыя ж такія тэатры створаны і працуюць у СШ № 136, 74, 171, 147, 20, 64, а ганаровы тытул "узорны" атрымалі беларускі тэатр 174-й сярэдняй школы, а таксама — пазашкольнай установы Першамайскага раёна. У СШ № 22, 20, 23, 108,12, 52, 110,119, 168 (называю лепшыя школы) і іншых створаны ды плённа працуюць 46 беларускіх музычных і літаратурных гасцёўняў. У тым жа накірунку пайшлі і іншыя навучальныя ўстановы. Добра ведаюць гарадскія аматары беларушчыны фальклорныя калектывы ПТВ № 222, 221, 32, 71, 12, 8, ВПВ чыгуначнага транспарту, электронікі. Беларускія клубы, гасцёўні і лекторыі разгарнулі актыўную дзейнасць у прафтэхвучылішчах № 222, 3, 24, 11, 13, 12, ВПВ будаўнікоў і бытавога абслугоўвання... У кожным раёне горада арганізаваныя клубы беларускай гульні. Так, клуб «Скамарохі», які кіруе А.Т.Дзіско, з Першамайскай пазашкольнай установы тройчы браў лаўрэацтва на рэспубліканскіх конкурсах, сем разоў перамагаў на конкурсах забаўнікаў. А фальклорны ансамбль «Мілавіца», які пяць гадоў пачынаў сваю працу ў Кастрычніцкай пазашкольнай установе сталіцы, стаў шырока вядомы па ўсёй краіне і за яе межамі...

**— Цяпер зразумела, чаму так усхадзіліся шавіністы ўсіх кшталтаў і маштабаў. Убачылі: да беларушчыны сталі актыўна далучацца дзеці, яшчэ адно, два новыя пакаленні — і нашыя мова ды культура адродзяцца, зоймуць свой пачэсны пасад у еўрапейскай цывілізацыі. Але ці маюць рацыю тыя з іх, хто лементуе, быццам ад беларусізацыі пацерпяць прадстаўнікі іншых народаў, якія жывуць у Беларусі?**

— Адназначна — не! Я ўжо казала, што ў сталіцы 95 сярэдніх школ маюць статус расійскіх. Адкрыты першы клас на польскай мове. Дзейнічаюць яўрэйскія класы ў СШ № 132, рыхтуецца нават адкрыццё яўрэйскай школы. Працуюць нядзельныя школы па вывучэнні ўкраінскай і татарскай моваў. Так што махровым нацыяналізмам у Менску нават не патыхае. Але беларускі народ мае права і павінен ведаць, памятаць мову і культуру сваіх бацькоў ды дзядоў. Мы не Іваны, якія забыліся на сваё карані. А таму ніякія рэферэндумы не ў стане забараніць, скасаваць статусы беларускіх школ, знішчыць тыя асяродкі беларушчыны, якія ўтвораны ў навучальных установах і нават у садках. Будзем бараніцца ад этнацыду ўсёй талакой, усёй грамадой. І абавязкова не толькі адаб'ёмся, але і пераможам!

**Распытваў Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## сыноў і дачок

Магутны колісь і слаўны на ўсю Еўропу Наваградак сёлета адзначае сваё 950-годдзе. З гэтым юбілеем лучацца іншыя, таксама значныя: 400-годдзе надання гораду другога, пасля «Пагоні», герба, круглыя гадавіны Міра, Мірскага замка і Карэліч, а таксама 400-годдзе запачаткаванага на Наваградчыне прафесійнага тэатра на Беларусі.

У старажытным Наваградку на маляўнічай узгорыстай мясцовасці былі закладзены падваліны абсяжнай ад Балтыкі да Чорнага мора і магутнай дзяржавы сярэднявечча — Вялікага Княства Літоўскага.

Будучы сталіцай, старадаўні Наваградак адыграў вялікую ролю і як цэнтр рэлігійнага, духоўнага жыцця. Там, дзе сёння вёска Лаўрышава, вялікім князем Войшалкам быў заснаваны манастыр, які праз сваю значнасць набыў статус Лаўры. У яго сценах было напісанае, арыгінальна і шыкоўна аздобленае Лаўрышаўскае Евангелле, якое цяпер, як бясцэнная рэліквія, захоўваецца ў кнігазборах Кракава.

Падзеі складваліся так, што ў XIV ст. пры князю Гедыміну сталіца ВКЛ была перанесена ў Вільню, куды, як агульнадзяржаўны герб, перайшоў і старадаўні сімвал «Пагоня». Аднак па многіх пазіцыях горад захоўваў вядучую ролю ў дзяржаве: тут збіраўся Вышэйшы суд (Літоўскі трыбунал), а непадалёку, на месцы сучаснай вёскі Метраполь, размяшчалася рэзідэнцыя мітрапаліта Праваслаўнай царквы Вялікага Княства, якая была незалежнай ад Маскоўскай метраполіі, знаходзілася пад юрысдыкцыяй Візантыйскага Патрыярха.

Сваё культурнае, рэлігійнае і адміністрацыйнае значэнне Наваградак утрымліваў і пасля. Наваградцы далучыліся да паўстанняў супраць Расійскай імперыі. Збройныя выступленні цярпелі паражэнні, а іх удзельнікі жорстка караліся. Некаторым усё ж удавалася ўцячы ў іншыя краіны, якім нашы суродзічы нярэдка прыносілі гонар і слаўу. У якасці прыкладу можна назваць Ігната Дамейку — ураджэнца вёскі Мядзведка з-пад Міра, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча, вучонага з сусветным імем, нацыянальнага героя Чылі. А Францыю праславіў яшчэ адзін выхадзец з Наваградчыны — паэт Гіём Апалінэр, бацькі якога з вядомага беларускага роду Кастравіцкіх.

Сыны і дочкі Наваградчыны сэрцам і душою засталіся вернымі Бацькаўшчыне і ў сваёй творчасці па-майстэрску яе ўслаўлялі. Найярчэйшы прыклад таму Адам Міцкевіч, а таксама Ян Чачот, Тамаш Зан, Уладыслаў Сыракомля. Яны надзвычай высока цанілі і шанавалі беларускую мову, але яна была ў той час пад забаронай.

Нямала слаўных сыноў і дачок Наваградчыны і сёння жыве ў блізкім і далёкім замежжы. Маладая грамадская арганізацыя Згуртаванне наваградцаў свету ўзяло на сябе ініцыятыву сабраць іх на Першы з'езд наваградцаў. Ён пачнецца ў Наваградку 16 верасня. У першы дзень будзе праведзена навукова-асветная канферэнцыя пра ролю краю і яго людзей у развіцці нашай дзяржаўнасці, мовы, культуры, пра іх уклад у сусветную цывілізацыю. У той жа дзень адбудзецца тэатральнае відовішча.

Усіх, хто цікавіцца пытаннямі правядзення Першага з'езда наваградцаў свету, просім звяртацца на адрас:

Рэспубліка Беларусь, 220053 Менск, Даўгінаўскі тракт, 52 — 9, тэл/факс 37-05-44 (х.), 23-98-51 (сл.)
Яўгену Лецку — старшыні Рады ЗНС.

231400 Навагрудак, вул. Гродзенская-2, тэл.: (0597) 2-14-70 (сл.)
Тамары Вяршыцкай — старшыні Управы ЗНС.

*Беларускае замежжа*

# Białoruskie Zeszyty Historyczne

Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы было заснавана летась. У адрозненне ад мноства беларускіх арганізацый краю і дыяспары, ад самага пачатку свайго існавання дзейнасць яго мела не папяровы характар. Пра гэта сведчыць тое, што вынікі даследаванняў удзельнікаў таварыства адразу ж пачалі выдавацца на старонках альманаха, што выходзіць два разы на год, — «Białoruskie Zeszyty Historyczne». Спонсарамі выдання сталі Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, гарадская рада Беластока, гарадская рада Бельска-Падляскага, рада гміны Гарадок і рада гміны Орля. У склад рэдакцыі новага выдання ўвайшлі Веслаў Харужы, Даратэуш Фіонік, Юры Каліна, Аляксандр Карпюк, Алег Латышонак, Антон Мірановіч, Яўген Мірановіч ды старшыня БГТ Яўген Вапа.

Змест часопіса складаюць публікацыі, у якіх разглядаюцца праблемы адукацыі і міжнацыянальных дачыненняў беларусаў і іх суседзяў у XVI—XX стагоддзях, стаўленне польскіх уладаў да беларускага насельніцтва і беларускіх — да польскага ў розныя часы, рэцэнзіі на выдадзеную ў Польшчы гістарычную літаратуру, біяграфічныя матэрыялы, інфармацыі.

Цікавы змест першых нумароў альманаха дазваляе меркаваць, што гэтае выданне зробіцца каштоўнай крыніцай інфармацыі для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускага народа. Але, на жаль, яго адносна невялікі наклад, выданне за мяжою і даволі значная цана нумара — каля трох долараў — будуць ствараць значныя перашкоды распаўсюджванню выдання ў Беларусі.

Тыя ж чытачы, якія маюць доступ да выданняў Беларускага гістарычнага таварыства, змогуць, акрамя «Zeszytów», азнаёміцца і з іншымі кнігамі сяброў таварыства: «Беларускі нелегальны друк у Польшчы ў 1981—1990 гадах» Веслава Харужага і «Вёска Стральцы — Давідовічы ў гістарычнай традыцыі» Ірэны Матус.

У.П.

# «Czasopis» у траўні

«Бард беларускі» — гэткі подпіс мае змешчаны на вокладцы часопіса здымак акцёра Гародзенскага тэатра лялек Віктара Шалкевіча, аўтара і выканаўцы мноства песень, па абодва бакі Буга больш вядомага як БББВ — бацька бруднага беларускага блюза. Акрамя партрэта Шалкевіча, на старонках штомесячніка змешчаны і артыкул, які знаёміць польскіх чытачоў з творчасцю беларускага спевака.

А пачынаецца нумар падборкай цытат з польскіх і беларускіх выданняў — «Нашай Нівы», «Беларуса», «Звязды», «Wprost», «Нівы», «Przeglądu Prawosławnego». «З Расіяй трэба падтрымліваць блізкія і прыязныя стасункі. З адной толькі ўмовай: толькі не за кошт нашых агульных суседзяў — Украіны, Беларусі і Літвы. Гэтае патрабаванне можна лічыць першым сярод нацыянальных інтарэсаў Польшчы», — мяркуе аўтар часопіса «Wprost».

Значная частка пятага нумара прызначана менавіта для польскіх чытачоў і знаёміць іх з палітычнай сітуацыяй у Беларусі — артыкулы «Гнеў прэзідэнта» і «Дылемы выбараў» — ды з найбольш актуальнымі праблемамі нашага краю — «Прывід Чарнобыля».

Праблемам праваслаўя, якое ёсць веравызнаннем большасці польскіх беларусаў, прысвечана гутарка супрацоўніка рэдакцыі з Мікалаем Бушкам — арганізатарам міжнародных дзён царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Наступны артыкул, які датычыць пытанняў рэлігіі, мае назву «Сімвал расійскай няволі» і знаёміць чытачоў з гісторыяй пабудовы ў 1912 і знішчэння ў 1926 годзе варшаўскага праваслаўнага збору Аляксандра Неўскага.

«Злучэнне гербаў» — аўтар гэтай нататкі даследуе паходжанне сімволікі, якой цяпер карыстаецца Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы. Вобраз Маці Божай, што крочыць па вадзе, мяркуе даследчык, паўстаў у выніку спалучэння элементаў двух гербаў Менска — зацверджанага па другім падзеле Рэчы Паспалітай ухвалай Сената ў Варшаве 22 студзеня 1796 года і герба Менскай губерні, зацверджанага ў Маскве ў 1878 годзе.

Гісторыі беларусаў Польшчы прысвечаны дзве публікацыі. У першай — «6 траўня ў даўніх часах» — разглядаецца паходжанне і змест свята Юр'ева дня. Другая — «Гайнаўка: падзеі горада і ваколіц» — з'яўляецца кароткім аглядам гісторыі рэгіёна ад XV стагоддзя да нашых дзён.

Змешчаная на апошняй старонцы вокладкі рубрыка «Хроніка мясцовасці» прысвечаная гісторыі мястэчка Страбля, якая пачалася яшчэ ў XII стагоддзі.

У.П.

*Чыталі?*

# Погляд з заходняга берага



У выдавецтве «Навука і тэхніка» намаганнямі ТБМ выдадзена кніжка: *Станкевіч С. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу.* (Мн., 1994.) Надрукавана яна па выданні: *Запісы. Мюнхэн: Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, 1962. Кн. 1. С. 89 — 137.* У цяперашнім выданні гэтае працы захаваныя (за невялікімі выняткамі) асаблівасці мовы і правапіс мюнхенскага выдання. У прадмове, напісанай В.Вячоркам, сцісла разглядаецца жыццяпіс, дзейнасць і згаданая праца доктара Станіслава Станкевіча (1907—1980), імя якога доўгія гады мала каму было вядомае на радзіме. Уэнцыклапедыі «Беларуская мова» (Мн., 1994) змешчаны артыкул пра ягонага дзядзьку — вядомага мовазнаўцу Я.Станкевіча.

Праца С.Станкевіча складаецца з уступу й чатырох раздзелаў — 1. Звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы; 2. Савецкая беларуская літаратурная мова; 3. Мова мастацкае літаратуры; 4. Пісьменнікі ў абароне мовы.

У канцы змешчаны «альфабэтны паказьнік русіцызмаў». Калі ў першым раздзеле аўтар у асноўным падае факты таго, як расійская мова ўплывае на беларускую і спакваля выцясняе яе з ужытку, дык у другім ён, даўшы ў пачатку ўмоўныя скароты шэрагу друкаваных тэкстаў, разглядае далей у маленькіх частках фразы, у якіх, на думку С.Станкевіча, маюцца «русіцызмы». Увогуле большасць адзначанага аўтарам — слушнае. Тут разглядаецца стан сучаснае беларускае марфалогіі, сінтаксісу, фразеалогіі, слоўніцтва. На «русіцызмы» аўтар дае беларускія адпаведнікі, але ў гэтай працы існуюць і спрэчныя моманты. Напрыклад, заўважыўшы небеларускае слова **член** (урада, суполкі і г.д.), С.Станкевіч піша: «Пабл. Сябра». В.Ластоўскі ў гэтым значэнні ў сваім слоўніку дае назоўнік **чалец** (мн. **чальцы**) і дае прыклады: *чалец рады, таварыства, клюбу.* Тут трэба разумець, што дадзены назоўнік утвараецца ад старажытнага слова **чало**. На слова **сачыненне** С.Станкевіч даў адпаведнікі **ўкладанне, праца**. Але існуе неафіцыйнае слова **творапіс** (пішуць школьнікі, абітурыенты).

У раздзеле «Мова мастацкае літаратуры» аўтар, працягваючы гутарку пра «русіфікацыю», дае сінанімічныя пары, у якіх адно слова расійскае, другое — беларускае; параўноўвае мову М.Лынькова, У.Карпава, І.Шамякіна паралельна з часопіса «Полымя» і кніжных выданняў адных і тых жа твораў і знаходзіць адрозненні асобных месцаў. І вось агульныя развагі аўтара: «З прычыны агульных русіфікацыйных тэндэнцыяў, накіданых зьверху, канечнасьці высьцераганьня «вузкіх правінцыялізмаў», «архаізмаў» ды «штучна твораных нэалягізмаў», а з другога боку — з прычыны канечнасьці «ўзбагачваньня» мовы «зь невычэрпных крыніцаў мовы вялікага рускага народу», беларускія паэты й пісьменьнікі вельмі абмежаваныя ў сваіх магчымасьцях нармальнага ўзбагачваньня й разьвіцьця сваёй мовы на базе народнай мовы й дыфэрэнцыяваньня яе розныміі сэмантычнымі адценьнямі. Таму мова сучаснай беларускай савецкай літаратуры — гэта нааогул мова бедная й бясхарбная» (С. 62). Станкевіч падае сапраўдныя беларускія словы, якія сустракаюцца ў мастацкай літаратуры, але не ўжываюцца афіцыйна. У раздзеле «Пісьменнікі ў абароне мовы» гаворыцца пра ролю пісьменнікаў у захаванні беларускай мовы, даюцца цытаты. А ў заключным раздзеле без назвы аўтар, гаворачы аб гісторыі мовы, падвёў вынік: савецкая беларуская моўная палітыка скіраваная на расійскую мову.

Можна сказаць, што праца С.Станкевіча з'яўляецца нібы дадаткам да выпушчаных ТБМ слоўнікаў і можа выкарыстоўвацца як дапаможнік. Вядома ж, даўно ўзнікла патрэба стварэння беларускага слоўніка, у якім маюць быць сапраўдныя беларускія словы. І ствараць яго трэба з улікам згаданых слоўнікаў. Пры гэтым нельга не зважаць на слоўнікі М.Байкова і С.Некрашэвіча (выдадзеных у Менску ў 1925 і 1928 гадах) ці на слоўнік Я.Станкевіча (выдадзены ў 1990 г. у Нью-Ёрку).

Вядома, праца С.Станкевіча «Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР» — каштоўная рэч, якая мусіць разглядацца на сама высокай роўні (хаця сказанае аўтарам не з'яўляецца канчатковым, абавязковым, дагматычным). А дзейнасць выдатнага мовазнаўцы, літаратурнага крытыка заслугоўвае пільнага вывучэння. З прычыны нявывучанасці і нястачы звестак пра С.Станкевіча, тыя, што маглі напісаць артыкул для энцыклапедыі «Беларуская мова», гэтага не зрабілі. Як сказаў В.Вячорка ва ўступе да працы С.Станкевіча: «Сур'ёзных, глыбокіх артыкулаў з гісторыі літаратуры, літаратуразнаўчых і літаратурнакрытычных Станіслаў Станкевіч напісаў па сабе мноства і яны яшчэ чакаюць свайго даследніка і ўкладальніка».

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

*Згадкі* *Згадкі*

# Даследнік «Аль-Кітабаў»

«Цемна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі, дошч ішоў, цемна было, вецер веяў. Разумеў, што судны дзень настаў».

Такія паэтычныя радкі можна прачытаць у кнізе «Аль-Кітаб», якая «ёсць тлумачэннем Карана, яго важнейшых прыповесцяў». І напісана яна дзеля патрэбаў татараў-мусульман, што жылі на Беларусі, напісана на беларускай мове, але арабскімі літарамі. Ды і чытаць татары вучыліся з гэтай кніжкі.

Упершыню зацікавіўся такімі тэкстамі наш зямляк Антон Мухлінскі, прафесар цюркалогіі Пецярбургскага універсітэта. Іван Луцкевіч таксама шукаў «Кіцёл» — менавіта так было збеларушчана «Аль-Кітаб».

Але грунтоўнае даследаванне татарскіх унікальных рукапісаў зрабіў Антон Канстанцінавіч Антановіч (1910—1980), 85-я ўгодкі якога прыпадаюць сёлета. Беларускі юнак з-пад Нясвіжа закончыў Віленскі універсітэт, дзе і працаваў. Кандыдацкую дысертацыю напісаў пра мову судовай (актавай) кнігі Ковенскага земскага суда 1566-67 гг. Пасля Антон Канстанцінавіч зацікавіўся помнікамі татарскага пісьменства. Ён сабраў і разгледзеў 24 арыгінальныя тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, у тым ліку і 8 кітабаў. Наш зямляк вызначыў месца і час узнікнення кожнага рукапісу, падрабязна ахарактарызаваў мову, графіку, дастасаваную татарамі да беларускай фанетыкі і апісаў спосабы перадачы гукаў нашай мовы арабскімі літарамі, зрабіў транслітарацыю асобных урыўкаў.

Мова кітабаў адрозніваецца ад мовы старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў, яна блізкая да беларускай народнай мовы. У тэкстах адлюстравалася наша лексіка, фразеалогія, а таксама беларускі сінтаксіс.

Вынікі даследавання А.Антановіч выклаў у дысертацыі «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма», якая выйшла асобнай кнігай у 1968 годзе ў Вільні. Гэтая навуковая праца не толькі праславіла нашага земляка ў вучоным свеце, але і мае неацэннае значэнне для беларускага літаратуразнаўства і мовазнаўства, пацвярджае шырокае выкарыстанне нашай мовы рознымі этнічнымі групоўкамі.

П.П.

*Кола сям'і*

# Мудрыя гавораць...

**Францыск Радольф Вэйс** (1751—1818), швейцарскі філосаф, найбольш вядомы творам «Асновы філасофіі, палітыкі і маралі». Вэйс абраў прадметам сваіх даследаванняў не адцягненыя метафізічныя задачы, а звычайнага «сярэдняга» чалавека ў кантэксце яго штодзённага жыцця. І сённяшнія любы з нас, чытаючы пранікліvы, шчыры твор швейцарскага філосафа, будзе паўтараць: «Так, гэта пра мяне!»

Ф.Р.Вэйс усё жыццё імкнуўся сумленна служыць грамадству. Калі ж яго пазбавілі такой магчымасці палітычныя варункі, добраахвотна пайшоў з жыцця. Хаця сам пісаў пра няшчасці, што сапраўды мудрага чалавека яны могуць сагнуць, але не зламаць... Вэйс быў сапраўды мудрым чалавекам... Але ён быў і творчым чалавекам, і мройнікам, як сапраўдны філосаф... Не нам судзіць яго ўчынкі. Мы можам толькі атрымліваць асалоду ад таго асноўнага і вечнага, што ён пакінуў нам, — добрай кнігі.

Прапануем чытачам рубрыкі вытрымкі з раздзелаў кнігі Ф.Р. Вэйса «Пра дамашняе жыццё» і «Шчаслівы шлюб».

Наша сувязь з сям'ёй непарушная. Яна першая і апошняя з нашых прыхільнасцяў. У ёй мы нараджаемся, у ёй паміраем, і ніколі не будзе шчаслівы той, хто не ўмее жыць у ладзе з ёй.

На жаль, для ўвасаблення ідэала сямейнага шчасця недастаткова адной душы. Трэба, каб іх было дзве. Разумны, добры чалавек можа мець дурную, злосную жонку і наадварот. Здараецца нават так, што абодва супругі валодаюць цудоўнымі душэўнымі якасцямі, але, на жаль, зусім процілеглымі... У мяне сціскаецца сэрца пры думцы, як мала я бачыў сапраўды шчаслівых шлюбаў!

Розніца паміж прыгажуняй і проста прыемнай жанчынай у тым, што трыумфы другой пачынаюцца тады, калі для першай яны канчаюцца.

Бацька, які лічыць, што ўсё яго значэнне ў тым, каб яго слухаліся і баяліся, добраахвотна адмаўляецца ад самых лепшых сямейных радасцяў.

Муж, які груба адносіцца да жонкі, не павакае самога сябе і рыхтуе сабе прыніжэнне ў будучым. Робячы так, ён пазбаўляе сябе апірышча і суцяшэння, якія заўсёды побач.

Калі жанчыне аддаецца першынство, яна адчувае сябе неяк непамысна і ўвесь час пакутуе ад нейкай нерашучасці і неспакою, і, наадварот, для жанчыны няма пачуцця прыемней, чым ведаць, што абраны ёю спадарожнік жыцця заўжды зможа параіць ёй, падтрымаць і абараніць.

Каму якая справа да хатніх нязгодаў і сварак? Яны павінны канчацца між сабою і прытым так, каб пасля хвіліны прымірэння і следу ад іх не заставалася.

Для поўнага спакою і шчасця мужа недастаткова, каб у вернасць жонкі верыў ён адзін, але неабходна, каб гэтага ж пераканання трымаліся і астатнія.

Залішняя пяшчота да дзяцей, якая робіць з іх маленькіх тыранаў, адносіцца да ліку найвялікшых памылак у справе выхавання, і наступствамі бывае слабасць характару, згуба разумовых здольнасцяў, незадаволенасць жыццём, меланхолія і ўвогуле няздольнасць зрабіцца карысным грамадству.

Няблага... унушаць яму (дзіцяці. — **Рэд.**) думку, што ад людзей ён ніколі і нічога не атрымае, а калі і атрымае, дык толькі ўзамен таго, што дасць ім сам.

Публічнае выхаванне карысней для хлопчыкаў, хатняе — для дзяўчынак.

Збіраючыся ўступіць у шлюб, у вышэйшай ступені патрэбна прыняць да ўвагі характар сям'і, з якой думаеш парадніцца. Зусім аддаліцца ад новай радні няма ніякай магчымасці, і таму не благія ці добрыя якасці заўсёды аказваюць, да некаторай ступені, уплыў на наша ўласнае сямейнае шчасце. Акрамя таго, характар маладой дзяўчыны яшчэ больш, чым наш, носіць адбітак асяроддзя, у якім яна вырасла.

# Кола сям'і

# Тэрыторыя для жыцця

*Эсэ Жоржа Сіменона, якое мы сёння прапануем увазе чытача, на першы погляд не зусім для «сямейнай» калонкі. Але толькі на першы погляд, бо ў асноўным жа менавіта ў сям'і (і ў школе, як дзяржаўным працягу сям'і) закладаюцца фундаментальныя цагліны грамадзянскай (а значыць, і палітычнай) свядомасці юнага чалавека. Жоржа Сіменона палічылі б за гонар мець сваім грамадзянінам адразу некалькі еўрапейскіх краін, прадаставіўшы адначасова яму права ўдзелу ў выбарах. Тым не менш сам вялікі майстар дэтэктыўных раманаў прытрымліваўся прынцыпаў, якія не шкодзіла б ведаць тым, хто, асеўшы на жыхарства ў асяродку іншага народа, лічыць магчымым умешвацца ў тамтэйшае палітычнае жыццё, у той час як сам працягвае аддаваць перавагу дзяржаве сваёй нацыі. Цікава даведацца, як шаноўныя чытачы ўвогуле ставяцца да гэтай праблемы, якая для беларусаў з'яўляецца актуальнай.*

***Жорж СІМЕНОН***

Я паехаў з Льежа, калі мне яшчэ не было дваццаці, такім чынам, да таго, як дасягнуў узросту выбаршчыка, і ў Бельгіі ніколі не галасаваў.

Асталяваўшыся ў Францыі, я павінен быў пасля паўналецця адсылаць выбарчы бюлетэнь у Льеж альбо па пошце, альбо праз пасольства. Але я нічога пра гэта не ведаў. Мяне не інфармавалі. Афіцыйных папер ніхто не прысылаў. Карацей кажучы, я ні разу ў жыцці не заходзіў у кабіну для тайнага галасавання і ніколі не меў выпадку выказаць свае палітычныя погляды.

У Францыі я пражыў доўга. Пісаў. Накатаў, калі выкарыстоўваць прафесійны жаргон, даволі многа артыкулаў. Але я заўсёды лічыў сябе госцем у чужой краіне. А госць не павінен пляваць у суп гаспадара.

Вось чаму больш за дваццаць гадоў я не выказваў сваіх палітычных сімпатый. Не выказваў услых сваіх поглядаў, хоць па раманах можна прасачыць іх эвалюцыю.

Гэтак жа я паводзіў сябе і ў Злучаных Штатах. Я не натуралізаваўся там, быў усяго толькі госцем гэтай краіны і таму не дазваляў сабе, нават у гутарках з сябрамі, станавіцца на чый-небудзь бок.

Што да майго прыватнага жыцця, я стараўся — і лічыў гэта сваім доўгам — не засмучаць нікога з маіх блізкіх і сяброў.

Магу сказаць без перабольшвання, што боязь засмуціць, прынізіць ці непрыемна ўзрушыць — адно з асноўных правілаў, якімі я кіруюся ўжо шмат гадоў.

Маім дэвізам, як і дэвізам майго сябра Мегрэ, заўсёды было: паспрабаваць зразумець і не судзіць.

Нарэшце я асталяваўся ў Швейцарыі, працягваючы разглядаць сябе ў якасці госця гэтай краіны, а таму не лічачы, што маю права выказваць якія-небудзь меркаванні аб ёй...

**З кнігі «Vent du nord, vent du sud» («Вецер паўночны, вецер паўднёвы»).**

*Здароўе*

***Таццяна ФАМІНА,***
***кандыдат медыцынскіх навук***

# Дапамога самлеламу

Ці даводзілася вам бачыць, як чалавек, які толькі што стаяў побач, раптоўна падае, валіцца, як кажуць, з ног. Да яго кідаюцца, спрабуюць падняць. Секунда, другая, трэцяя — і той, хто страціў прытомнасць, адкрывае вочы і напачатку не можа зразумець, што з ім здарылася. — Самлеў!

Часовая страта прытомнасці (synсоре — паводле медыцынскага тэрміна) здараецца не так ужо і рэдка. Гэта вынік часовага аслаблення дзейнасці сардэчнай і дыхальнай сістэмаў ды паніжэння мышцавага тонусу. Такі раптоўны стан абумоўлены вострым недахопам кіслароду ў мазгавых клетках.

Страта прытомнасці — гэта найбольш лёгкая форма вострай сасудзістай мазгавой недастатковасці. Такія прыпадкі часцей узнікаюць у жанчын, што маюць нізкі крывяны ціск і няўстойлівы пульс, у надта эмацыянальных. (Аднак млець могуць і фізічна моцныя мужчыны.)

Схільнасць да такога стану можа ўзнікнуць пасля траўмы, перанесенай інфекцыйнай хваробы, ад фізічнага ці разумовага перанапружання, рэзкага парушэння рэжыму харчавання, але прычынай страты прытомнасці можа быць хвароба сэрца ці нервовай сістэмы, калі атэрасклероз або пухліна пашкодзіла сонную артэрыю, і нават праз ужыванне некаторых непажаданых або неадпаведных лекаў. У такіх выпадках чалавек можа абамлець нават на працягу час — ад 15 секунд і да некалькіх мінут. А страта прытомнасці суправаджаецца сутаргамі мышцаў твару, тулава, рук і ног, парушэннем пульсу; у непрытомнага можа пасінець твар, можа адвольна выдзяляцца мача. Тут ужо не трэба чакаць— выклікайце «хуткую дапамогу». Але ўсё ж вобмацкам вызначце пульс, паслухайце, прыклаўшы вуха да грудзей, ці б'ецца сэрца — магчыма, трэба пачаць рабіць непрытомнаму штучнае дыханне ці масаж сэрца, што дасць магчымасць дачакацца доктара.

Непрацяглая ж страта прытомнасці — ад трох да пятнаццаці секунд можа надарыцца ад моцнага перапуду, ад гневу, а таксама, калі чалавек пасля доўгага нерухомага сядзення ці ляжання (у венах ног узнік застой крыві) хутка ўстане. Бываюць выпадкі, калі чалавек самлее, перагрэўшыся на сонцы, ад моцнага кашлю.

Не пакідайце без апекі абамлелага. Адчыніце вакно, расшпіліце верхнюю вопратку ці хаця б каўнер кашулі, дайце панюхаць нашатырнага спірту, папырскайце на твар халоднай вадой, патрыце твар. Калі то была кароткачасовая страта прытомнасці, гэтага будзе дастаткова, каб самлелы раскрыў вочы.

# Самотныя

*(Заканчэнне. Пачатак у № 28.)*

Самотны чалавек. Вялікая грамадская, звычаёвая і культурная праблема, бо шторазз такіх людзей, пераважна мужчынаў, больш.

Калісьці мужчыны верхаводзілі — у сям'і, у грамадстве, на працы. Ім нібы быў выдадзены патэнт на мудрасць, сталасць, на апеку над слабай жанчынай. А што цяпер? Ці хтосьці хоць задаў сабе пытанне, як мужчына сёння пачувае сябе ў ролі мужа сваёй самастойнай жонкі?

Апавядала мне знаёмая псіхолаг, што раней пераважна жанчыны прыходзілі прасіць парады, як ратаваць сям'ю. І яны вымушаны былі лавіць тых мужоў, каб хоць пагаварыць з імі. Цяпер жа часцей звяртаюцца мужчыны, гэтак жа сама і з разводамі. Жонкі часцей вырашаюць развесціся. Шмат хто з іх хапаецца за такую меру, бо ім абрыдла і гэтае сужонства, і муж, і яны, даўно ўжо самотныя ў сваіх кватэрах, вырашаюць штосьць змяніць.

Але мяняць трэба сама перш свае погляды, звычайна скалькаваныя, прыдуманыя на ўзор кніжны або паводле кінасюжэта. А жыццё — зусім іншае. І жанчына «замыкаецца» сама ў сабе і нават не падумае, што варта было б хоць сказаць мужу ці родным пра сваё жаданне, пра свае мары, пра тое, чаго ёй нестае. На жаль, шмат хто з нас так выхаваны, што лепш стане цярпець, мучыцца ад таго, што яе «не разумеюць», чым стане дамагацца свайго. Жанчыне ж, наогул, прасцей сказаць, чаго прагне. Што праўда, некаторыя выбіраюць неадпаведную форму — пачынае папракаць мужа, плакаць, крычаць і нават лементаваць, каб чулі суседзі. І калі тыя пачнуць спачуваць — лічыць, што мэта дасягнута.

Ды такім спосабам не заўсёды можна чагосьці дамагчыся. Самотнасць жа застаецца. Лепей бы, каб жанчына паспрабавала зразумець мужчыну, ды не толькі ягоныя магчымасці, а, наогул, мужчынскую псіхалогію. Жанчынам трэба ведаць, што мужчына, апроч, так бы мовіць, агульначалавечых нормаў паводзін, мусіць трымацца так названых мужчынскіх, няпісаных, правілаў. Рэдка калі ўбачыш, каб мужчына на вуліцы, у аўтобусе ці ў вагоне прыгараднага цягніка прытуляў жонку ці хоць бы чмокнуў яе ў шчаку — стаяць, звычайна, стомленыя, абыякавыя. Што праўда, у беларускім інтэлігенцкім асяроддзі ўсё часцей можна бачыць, як мужчыны, вітаючыся, цалуюць жанчынам рукі. Але гэта не стала нормай для грамадства. А скажыце, ці не заслугоўваюць такога вітання жанчыны, чые рукі з мазалямі ці парэпаныя?

Мужчыны не могуць (а мо толькі не прывучаны?) адмовіцца ад прыдуманых кімсьці звычак. Чуласць, далікатнасць, шляхетнасць — гэта ж не па-мужчынску... І вось прыходзіць да псіхолага жанчына і скардзіцца, што муж чуллівы толькі ў ложку: «значыць, яму толькі гэта патрэбна».

І даводзіцца тлумачыць, што такі ўжо стэрэатып мужчынскіх паводзінаў, што паводле такога ўяўлення «сапраўды» мужчына можа быць чулым толькі ноччу, што толькі тады можа выявіць усе пачуцці да сваёй каханай. А часам бывае і так, што мужчына хацеў бы нейк палашчыць жонку іншай парой, але альбо не ўмее, альбо пачне ў неадпаведны час — ды толькі знервуе жонку. Некалькі такіх няўдалых спробаў — і мужчына адчувае сябе самотным. Да таго ж, калі нараджаецца дзіця, маці, як то звычайна, больш увагі, ды і чуласці, ласкі аддае немаўлятку, часам зусім забываючы пра мужа. Добра, калі мужа дапускаюць да калыскі ці ён сам з ахвотай забаўляецца з дзіцем. А калі не? Дзеці падрастуць, пойдуць з дому, а муж і жонка застануцца самотныя, чужыя, калі наогул застануцца разам.

Развязаць гэтую праблему нялёгка. Сама перш трэба пачынаць з сям'і, дзе ўсё яшчэ сыну гавораць: «Не плач, ты ж мужчына!» То мо трэба і мужчыне прызнаць права чалавека — права на людскія пачуцці і на... чалавечую слабасць.

**С.Ц.**

# Мужчыны мусяць есці пшанічнае вотруб'е

Недахоп вітаміну А выклікае захворванне на так званую «курыную слепату». Але бывае і так, што нават даволі вялікія дозы гэтага вітаміну не ратуюць ад хваробы. Вучоныя даследавалі прычыны і высветлілі, што вінаваты цынк. Менавіта гэты мікраэлемент «кіруе» размеркаваннем вітаміну А, які назапашваецца ў вантробе (печані). А калі цынку не хапае, то гэты вітамін не выкарыстоўваецца арганізмам.

Вучоныя зацікавіліся роляй гэтага мікраэлемента ў чалавечым арганізме. Спачатку даследавалі хворых і пераканаліся, што найменш цынку знаходзіцца ў людзей, якія пакутавалі на атэрасклероз, хваробы сэрца, алкагалізм, анкалагічныя захворванні. Але недахоп цынку адчувалі і тыя, хто лячыўся карцізонам, хто ўжываў антыкапцэпцыйныя таблеткі, хто любіць салодкія стравы і перасоленую ежу. І калі, напрыклад, хворым пасля аперацыі пачалі даваць цынкавыя прэпараты, то раны іх загаіліся ўдвая хутчэй.

Але толькі сенсацыйнае паведамленне доктара А.С.Прэсэда прыцягнула ўвагу медыкаў. Ён напаткаў у адной беднай вёсцы ў дэльце Ніла шмат недарослых мужчын, апатычных, з нізкімі разумовымі здольнасцямі, з недаразвітымі палавымі органамі. І калі доктар пачаў лячыць хворых прэпаратамі цынку, то малодшыя пацыенты развіваліся згодна з нормай.

Пазней даследнікі пераканаліся, што цынк патрэбны для нармальнага росту касцей, развіцця інтэлекту. Аказалася, напрыклад, што студэнты, якія мелі лепшыя вынікі ў вучобе, мелі і больш цынку ў валасах. (Даследаваліся валасы, бо гэта найпрасцей). Відавочна, існуе сувязь паміж фізічнымі ды і разумовымі здольнасцямі і ўтрыманнем цынку ў арганізме чалавека. Але не толькі, бо менавіта цынк дае добрыя вынікі пры лячэнні рэдкай хваробы, падчас якой выпадаюць валасы, а скура пакрываецца струпамі. Дарэчы, амаль у кожным выпадку выпадзення валасоў ці аблысення лячэнне цынкам дае добрыя вынікі.

У медыцынскай літаратуры апісаны выпадак лячэння «цынкавымі» таблеткамі экземы ў жанчыны. Такімі ж прэпаратамі ў Швецыі лечаць вугры ў маладых хлопцаў. Хаця большасць дактароў і сцвярджаюць, што дыета не мае нічога агульнага з гэтай прыкрай уразай, аднак медыкі з універсітэцкай клінікі ў шведскім горадзе Упсала даказалі, што здароваму мужчыну патрэбна штодзённа 10—20 міліграмаў цынку. І калі яны пачалі даваць пакутуючым ад вугроў па 45 міліграмаў цынку тры разы на дзень, то праз чатыры тыдні 65% пацыентаў мелі здаровую, прыгожую скуру твару, а пасля дванаццаці тыдняў лячэння яшчэ 22% хворых пазбавіліся вугроў.

Адной з самых прыкрых хваробаў старых людзей з'яўляецца сенілізм або старэчая дэменцыя (старческое слабоумие). Насуперак меркаванню, што гэта — натуральны працэс старэння, амерыканскія лекары пераканаы, што старэчую дэменцыю можна злагодзіць настолькі, што вернецца памяць, здольнасць параўноўваць. Механізм уздзеяння цынку на гэтую хваробу яшчэ невядомы, але некаторыя вучоныя лічаць, што цынк запабягае пашкоджанню капіляраў мозгу.

Некаторыя медыкі мяркуюць, што большая смяротнасць немаўлятак і дзяцей мужчынскага полу тлумачыцца недахопам у іхніх арганізмах цынку. Неабходнасць гэтага мікраэлемента павышаецца і падчас палавога выспявання: ён патрэбны для нармальнага развіцця залозаў.

Доследы на пацуках паказалі, што ўколы з цынкавымі прэпаратамі ў 80% выпадкаў ратавалі іх ад хваробаў прастаты. А таму некаторыя медыкі пачалі лячыць гэтым мікраэлементам таксама і людзей.

І няма іншага лепшага спосабу забяспечыць свой арганізм патрэбным мікраэлементам, як толькі спажываць адпаведную ежу. Дарэчы, не трэба баяцца перабраць згаданую дозу цынку, бо шмат хто з навукоўцаў сцвярджае, што чалавеку трэба яго ў 2—3 разы больш. А да таго ж вядома, што надмер цынку выдаляецца. Сама больш цынку ў грыбах (75—140), пшанічным вотруб'і (130—202 міліграмы ў адным кілаграме).

**Паводле І.Гумоўскай.**

**Культура мовы**

## Памылкі перакладу

Ёсць і журналісцкія памылкі, звязаныя з выкарыстаннем прыназоўнікаў. Іх прычынай таксама звычайна бывае калькаванне з расійскай мовы.

«А калі хто па сямейных абставінах ці па нейкіх іншых прычынах не мае магчымасці скончыць вучылішча, **ва ўвагу** бяруць нават такі момант, як страта цікавасці да навучання, то чалавека штучна не затрымліваюць і не выштурхоўваюць, а дапамагаюць хутка асвоіць нейкую кваліфікацыю і з адпаведным дакументам адпускаюць».

**«Настаўніцкая газета».**

«Ва ўвагу» ў прыведзенай цытаце ёсць калька з расійскага «во внимание», «принимать во внимание». Згодна з «Русско-белорусским словарем», выдадзеным у 1994 годзе, гэты выраз перакладаецца як «браць пад увáгу (на ўвáгу), зважáць на». У цытаце, якую мы разглядаем, адбыўся пераклад «частковы»; расійскае «принимают (во внимание)» правільна перакладзена згодна кантэксту як «бяруць». Але прыназоўнік пакінуты без перакладу — «в» («ва») замест «пад», «на». І тут да месца паразважаць увогуле пра складанасці пры перакладзе прыназоўніка «в» («во») на беларускую мову. Бо перакладацца ён можа і як «у», «ў», «ва», «ува», «за» («в один месяц» — «за адзін месяц»), «на» («в пользу» — «на карысць»), «з» («в три акта» — «з трох актаў») і канструкцыямі без прыназоўніка. Асаблівыя цяжкасці, як у прыведзенай напачатку цытаце, уяўляе ўжыванне прыназоўніка «у» («ў», «ва») перад словамі, якія пачынаюцца на «у»: «ва універсітэт», ці «у універсітэт», ці мілагучней усё-ткі замяняць гэты прыназоўнік іншымі — «пайсці да універсітэта», «адбудзецца ў будынку універсітэта»? «Русско-белорусский словарь» азначае: перад словамі, якія пачынаюцца на «у», павінен ужывацца прыназоўнік «ва» («ува»). Відаць, справа ў тым, што словы, якія пачынаюцца на «у», у беларускай мове збольшага запазычаныя («уюн», «унія», «урук»), абсалютная большасць астатніх утвораная з дапамогай прыставак («уброд», «увапхнуць», «уваход»). Словы ж, аналагічныя расійскім, якія пачынаюцца на «у», у беларускай мове набылі прыстаўны гук «в» — «ухо» — «вуха», «улей» — «вулей». Таму «выручыць» журналіста ў такіх выпадках можа толькі адчуванне мовы, валоданне ёю дастаткова вольна, каб замяняць моўныя канструкцыі аналагічнымі.

**Л.ШНІП.**

*(Працяг будзе.)*

**Беларуская лацінка**

## Не выдумваць!

Я з павагай стаўлюся да газеты «Наша слова», але не магу пагадзіцца з тым, што апошнім часам газета пачала друкаваць лісты, у якіх аўтары прапануюць свае варыянты лацінкі. У чытачоў можа скласціся ўражанне, што ў беларусаў не існавала сотні гадоў традыцыі пісьма лацінскім шрыфтам. Апошні варыянт лацінкі (чэшскі) ужо існуе каля ста гадоў. На ім напісана вялікая колькасць кніг, часопісаў, газет, — гэта ўжо традыцыя. І зараз беларуская лацінка ўжываецца. Дасылаю выразку з беларускай старонкі «Bielarus Vilenščyny» польскамоўнай газеты «Kurier Wileński», якая выдаецца ў Летуве. Прапануемыя на старонках газеты «Наша слова» варыянты лацінкі не горшыя і не лепшыя за існуючы. Але навошта ж зараз рабіць змены!?

**ABJAVA**

Užo stali tradycyjnymi našy sustrečy kožny druhi čaćvier miesiaca. 8 śniežnia a 16 hadzinie ŭ zali TBK pa vul. Žygimantų 12-3 adbudziecca dakład na temu: «Aktualnaje palityčnaje stanovišča ŭ Biełarusi». Dakładčyk — staršynia palityčnaj kamisii Biełaruskaha Narodnaha Frontu «Adradžeńnie» sp. Vincuk Viačorka.

**Алесь СТУПЕНЬ.**

**ACADEMIA «NS»**

**Гісторыя моваў на Беларусі**

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«...некоторые идоуче плакали некоторые его посмевали иные соромотили иные болото и гной на него кидали. иные на лице его плевали. иные его лице били...»*

**(«Пакуты Хрыстовы», XV стагоддзе.)**

## Жывая мова зборніка XV стагоддзя

Беларуская мова ў адрозненне ад іншых еўрапейскіх моваў (чэшскай, нямецкай, англійскай і інш.) уваходзіла ў рэлігійны ўжытак, **паступова** выцясняючы з гэтай сферы царкоўнаславянскую. У гэтым раздзеле разгледзім моўныя асаблівасці рэлігійных помнікаў, якія напісаны **на беларускай мове**. (Помнікі ж, у якіх беларуская стыхія яшчэ **не з'яўляецца вызначальнай,** будуць разгледжаны ў раздзеле «Царкоўнаславянская мова».)

Самым раннім сведчаннем і вынікам уздзеяння двухмоўя, якое ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе ўсталявалася вельмі рана, на моўную сітуацыю дыгласіі ў Вялікім Княстве Літоўскім з'явіўся пераклад апакрыфічных, г.зн. некананічных аповесцяў «Пакуты Хрыстовы», «Аповесць аб трох каралях-валхвах» і «Жыціе Аляксея, чалавека Божага», змешчаных у рукапісным зборніку XV стагоддзя (ён захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу пад № 391).

**«Пакуты Хрыстовы»** — так перакладчык гэтага зборніка назваў тэкст Евангелля ад Мікодыма (Нікадзіма), якое з'яўляецца адным з апакрыфічных (некананічных), адрынутых царквой евангелляў. Усяго было напісана ў свой час каля 30 жыццяпісаў Хрыста (евангелляў): Евангелле ад Андрэя, ад Юды, ад Марыі, ад ісціны, ад Фамы, ад Піліпа і інш. Дыскусіі паміж багасловамі з нагоды складу Новага запавету вяліся на працягу стагоддзяў. І толькі на Лаадзікейскім саборы ў 364 годзе быў зацверджаны першы канон Новага запавету з 26 кніг (пазней, на Канстанцінопальскім саборы ў 692 г. да іх быў далучаны Апакаліпсіс або Адкрыццё Яна). У ліку іх былі толькі 4 евангеллі — ад Мацея, ад Маркі, ад Лукі і ад Яна (Іаана).

**«Аповесць аб трох каралях-валхвах»** — апакрыфічная аповесць на евангельскі сюжэт, напісаная на лацінскай мове ў XIV стагоддзі нямецкім манахам Іяганам з Гільдэсгейма. У аснове — евангельскі эпізод пра пакланенне немаўлятку Езусу трох усходніх цароў-язычнікаў, якія пасля сталі шчырымі хрысціянамі.

**«Жыціе Аляксея, чалавека Божага»** — адзін з твораў жыційнай (агіяграфічнай) літаратуры, якая ўяўляе сабой жыццяпісы святых, апавядае пра Аляксея, які ў імя веры пакінуў сваіх багатых бацькоў і жонку ды стаў хрысціянскім падзвіжнікам. Ён вяртаецца ў бацькоўскі дом пад выглядам жабрака і жыве там на працягу 17 гадоў. Толькі пасля яго смерці бацькі даведаліся, што гэта быў іх сын.

Крыніцы гэтых твораў дакладна не вызначаны. Вядома, што яны былі перакладзены з лацінскай мовы з выкарыстаннем чэшскага перакладу. На гэта ўказваюць невядомыя раней лацінізмы ў мове твораў. Паводле заснавальніка беларускай філалогіі Яўхіма Карскага, з усіх вядомых помнікаў XV стагоддзя, **у гэтым зборніку жывая беларуская мова адлюстравалася ў найбольшай ступені**. Адсутнасць наогул натуральных для такога жанру царкоўнаславянізмаў дазваляе меркаваць, што гэты пераклад быў здзейснены **ў каталіцкім** асяроддзі. Гэта і вызначыла асаблівасці мовы зборніка. Правапіс тыповы для беларускіх летапісаў і іншых тагачасных помнікаў. Зборнік перапісаны познім беларускім паўуставам. Пад уплывам верагодна заходнеславянскіх арыгіналаў замест **а** етаванага часта ўжываецца спалучэнне **іа**, на месцы **яць** часта выступае **е**. Мова зборніка адлюстроўвае асноўную тэндэнцыю далейшага развіцця беларускай літаратурнай мовы ў старажытны перыяд — выцясненне архаічных рыс элементамі жывой мовы. Прыкметна адлюстраваліся такія рысы жывога вымаўлення, як пераход **в** у **у** **(ў)** *(оуся, ауси, аусякое),* зацвярдзенне зычных *(стрыгоучим, чорными, ничого),* у **граматыцы** — формы роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з канчаткам **-у** *(верхоу, гоукоу, дивоу),* прыметнікаў назоўнага склону множнага ліку з канчаткам **-ие, (-ые)** *(болестные, ганебные, чорные)* замест ранейшага **-ыи (-ии)**, назіраецца разбурэнне ранейшай сістэмы скланення неасабовых займеннікаў *(оуси дороги* замест ранейшага *аусе).* Шырока прадстаўлена **лексіка** жывой мовы *(гоукъ, всюды, албо, ганебне, загиноули, коли, выслоухаи).* Для ілюстрацыі гэтых і іншых асаблівасцяў мовы зборніка прыводзім урывак з «Пакутаў Хрыстовых»:

«от беззаконных людеи битья, его преславное лицо такъ было оубито ажь вес син стался былъ, пршляхетное тело его так седрано было ижъ одь пяты ножное не было оу нем местьце здоровое. так было ростягнено на крижоу иж бы вси кости оу него могль преличити». Для гісторыі беларускай літаратурнай мовы вялікае значэнне мае той факт, што некаторыя з гэтых тэкстаў з беларускіх спісаў перапісваліся і ў Маскоўскай Русі. Пры гэтым маскоўскія перапісчыкі звычайна ўносілі ў тэкст шматлікія папраўкі і замены, перадаючы незразумелыя для расійскага чытача беларускія формы і словы адпаведнымі сродкамі расійскай пісьмовай мовы. Гэты факт абвяргае шавіністычныя сцвярджэнні пра тое, што «руская мова» Вялікага Княства Літоўскага і «великий и могучий» — гэта адно і тое ж.

На ксеракопіі — урывак з тэксту «Пакутаў Хрыстовых».

**Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»**

*Сымон БАРЫС*

# Як у нас клічуць?

*(Працяг.)*

## Жаночыя імёны

**Агата**. Агафия (грэц.) — добрая. Разм. Агаф'я. Вытв.: Агатка, Агатачка, Агася, Гата, Гашка, Агаша. Імяніны: пр. 10.01; 18.02; 6.07; кат. 5.02.

**Агапа**. Агапия — жаночае імя ад мужчынскага імені Агапий (грэц.) — любоў, любасць. Вытв.: Агапка, Агася, Гапа, Гася, Гаська. Імяніны пр. 29.04.

**Агна**. Агния (грэц.) — бязгрэшная. Вытв.: Агнета, Агнечка, Агнешка, Агнеся. Імяніны: пр. 3.02; кат. 21.01; 20.04.

**Агрыпіна**. Агриппина (лац.) — ад родавага рымскага імені Агриппа. Вытв.: Груня, Агруся, Рыпінка, Рыпіна. Імяніны 6.07.

**Адэля**. Аделаида (стараням.) — высакароднае саслоўе. Вытв.: Адзька, Адэлька, Адэльця. Імяніны кат. 5.02; 12.12.

**Адэліна** ад імя Адэля, Адэлаіда.

**Азалія**.

**Аксана**. Оксана ад імені Ксения (грэц.) — чужаземка. Вытв.: Асанка, Ксаначка. Імяніны 6.02.

**Аксёна**, **Аксіння**. Аксинья. Ксения. Вытв.: Аксініца, Аксюта, Акціся. Імяніны 6.02.

**Акуліна.** Акулина (грэц.) — арлінная. Вытв.: Акуліся, Акульця. Імяніны пр. 26.06.

**Ала**. Алла (грэц.) — другая, наступная. Вытв.: Алачка, Алка, Аля, Аліса. Імяніны пр. 8.04.

**Алена, Алёна**. Елена (грэц.) — светлая. Вытв.: Алёнка, Аліса, Гелена, Гэлька, Альця. Імяніны: пр. 3, 8.06; 24.07; кат. 22.05; 13.08.

**Алеся, Аляксандра**. Александра (грэц.) — мужная, жан. імя ад мужч. імені Аляксандр. Алеся — ад мужч. імені Алесь. Вытв.: Алеська, Саша, Сашка, Сашачка, Шура, Шурачка, Шуранька, Шурэня, Сашуля, Саня. Імяніны: пр. 2.04; 31.05; 19.11; кат. 18.05.

**Аліна**. Алина — варыянт імені Адэліна ці Ангеліна. Вытв.: Ала, Аля, Алінка, Алечка, Алка. Імяніны: пр. 14.06; 23.12; кат. 16.06.

**Аліцыя.** Алиция. Імяніны кат. 18.04; 21.06; 16.12.

**Алімпа, Алімпіяда**. Алимпия, Олимпиада. Ад мужч. імені Алимпий (грэц.) — светлы. Олимпиада — алімпійская. Імяніны пр. 7.08.

**Альбіна**. Альбина (лац.) — жан. імя ад мужч. імені Альбик — белы. Імяніны кат. 1.03; 15.09; 16.12.

**Альдона** (стараням.) — жан. імя ад мужч. імені Альдон — стары. Імяніны кат. 11.10.

**Альжбета**. **Ліза**. Елизавета (яўр.) — клятва «Бог мой, Богам клянуся». Вытв.: Лізавета, Лізачка, Лізка, Вета, Алечка, Аля, Альтуся. Імяніны: пр. 18.09; 9.11; кат. 4.01; 18.06; 4, 8.07; 5, 17, 19.11.

**Аляўціна**. Алевтина (грэц.) — аднятая, адлюстроўваючая (лац.) — моцная. Вытв.: Аля, Алечка. Імяніны пр. 29.07.

**Амелія**, **Амеля**. Амелия (стараням.) — працаздольнасць. Вытв.: Міля, Амілька, Мэля, Мільдэся. Імяніны: кат. 30.03; 10.07; 25.09.

**Ангеліна**. Ангелина (грэц.) — ангельская, вястун. Вытв.: Ангелінка, Ангеліначка, Ліна, Аліна, Алінка. Імяніны: пр. 14.07; 23.12.

**Анатоля, Тася**. Анатолия (грэц.) — усходняя. Вытв.: Ната, Толя, Туся, Тулька. Імяніны 2.04.

*(Працяг будзе.)*

